*Я сніў,*

*што сам я*

*адляцеў –*

*Душа*

*ўзяла*

*і засталася.*

# Міхась Стральцоў

## Выбраныя вершы

п

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Бел)-5
С83

Серыя заснаваная ў 2016 годзе.

Рэдкалегія серыі:

Л. Баршчэўскі, Зм. Колас, В. Сёмуха,
А. Хадановіч, Г. Янкута

Укладальнік Андрэй Хадановіч

*Укладальнік шчыра дзякуе
Міхасю Скоблу і Ціхану Чарнякевічу
за дапамогу ў працы над кнігай*

Вершы публікуюцца паводле:
Міхась Стральцоў. *Ядлоўцавы куст*. Мінск: Мастацкая літаратура, 1973.
Міхась Стральцоў. *Цень ад вясла*. Мінск: Мастацкая літаратура, 1979.
Міхась Стральцоў. *Мой свеце ясны*. Мінск: Мастацкая літаратура, 1986.
Міхась Стральцоў. *Выбранае*. Мінск: Мастацкая літаратура, 1987.
Міхась Стральцоў. *Выбраныя творы*. Мінск: Беларуская навука, 2015.
Тры вершы друкуюцца ўпершыню паводле аўтографаў
з фонда М. Стральцова ў БДАМЛМ.

На вокладцы:

*Невядомы аўтар,
Фотапартрэт Міхася Стральцова (пач. 1980-х).*

**ISBN 978-985-23-0092-6**

## З кнігі «Ядлоўцавы куст» (1973)

### *Эпіграф*

Я хачу напісаць радок,
толькі адзін радок,
які наіўны паэт
з галавой, кучаравай, як воблака,
мог бы ўзяць за эпіграф.

Напішу хоць бы так:
«Я аднойчы бачыў кепскага чалавека».

## *Шчаслівая хвіліна*

Азвалася сонца –
і птушка пяе.
Ельнік.
Вада.
Шэры снег у шыголлі, у лусках кары.
Прыпыніўся,
голаў падняў і слухаю так,
быццам апошні дзень жыву на зямлі.

***

Уздыхае мора, калышучы ўлонне хваль;
Тоіцца ўздых у начы, прахалодаю дыхае вечар,
На світанні ўздыхае, прачнуўшыся, вецер, –
А ўсё пайшло ад уздыху твайго і майго.

***

Разбіраюць барак пад маім акном,
разбіраюць спаважна,
як быццам дом новы будуюць.
Чуцен скрыгат і трэск, –
пыл ляціць,
і ляцяць
над баракам шпакі,
непазбежна і пругка, як вецер.
І ўсё дзеецца так, як трэба.
Хлопчык малы
тым часам на дрэва залез,
гушкаецца на галлі, –
дарослыя на яго
не звяртаюць увагі.
Дрэва, як цацку, яму аддалі,
каб не плакаў.

***

Новы дзень. Вітаю новы дзень.
З незнаёмай да таго пакорай
Я прымаю дождж ык, што ідзе, –
Можа, нават скончыцца не скора.

Вераб’ям не страшна пад даждж ом,
Ціўкаюць – мо жаласна, мо светла.
Пад шапоткім сцішаным святлом
Чалавечы твар нязвыкла ветлы.

Новы дзень – ні радасць, ні журба.
Прарастае парастак увагі.
У сціхуткай флейце спіць труба,
У малой даждж ынцы – завязь смагі.

***

Такая цёплая вада,
Такая жоўтая вада –
Ад сонца, можа, у якога
Агністым вехцем барада.
Стаю ў вадзе, малы і босы,
Між пальцы шчэміцца трава.
А жабы кумкаюць. Як восы,
У вочы промні. Галава
Цвіце здзічэлаю сурэпкай.
Ад рабаціння твар пячэ...
І ўладай нечай, гэткай чэпкай,
Я і дагэтуль там яшчэ.

## *Глухата*

Ноч. Сон не йдзе.
Чую, як гарыць цыгарэта,
Кінутая некім на вуліцы, –
Пад ліпу, на ссохлы прапылены дол.
Нянавісці да сябе
Праз сцяну не пачую.

***

Ты пайшла,
ты чамусьці пайшла,
і я
стаў калодзежам без вады,
стаў вясновым кустом без лісця,
але болей за ўсё
стаў падобны на клетку,
якую пакінула птушка...

Чую, у садзе чужым пяе,
бачу між дрэў залачоную клетку.

***

І нехта з горачкі спускаўся,
І нехта некага чакаў,
І нехта ў нечым спавядаўся
І блізкі лес за сведку браў.

І я там быў і нешта клікаў –
Ды толькі тое ўсё сплыло
У свет, што стаў такі вялікі,
Што трошкі болей за сяло.

## *Забілі курыцу*

*(З дзяцінства)*

Яе забілі у кустах
Драўлянай ручкай ад гранаты.
Свет для яе тады прапах
Апошнім пахам блізкай хаты.
Яна была не багацей
Ад нашых, мусіць, тая хата.
У хаце – гэтулькі ж дзяцей,
Яды – таксама небагата.
Яна – то курыца была.
Курá пры абскубаным пеўні,
Прапісаная скрай сяла
Спачатку пэўна – і няпэўна.
Няпэўнасць тую прывялі,
Зрабіўшы зло на гэтым  свеце,
Міхась, яшчэ два Васілі –
Гадоў тых пасынкі і дзеці.
Яе забілі, а затым,
Хаваючыся ў чыстым полі,
Агонь палілі, плаваў дым.
Студзілі курыцу ў прыполе.
Цяпер як тое зразумець?
Куды у памяці падзеці?
Прад успамінам чырванець?..
Хай не чытаюць гэта дзеці.

***

Трамвай, як сараканожка, –
марудна імклівы і доўгі,
яшчэ да таго ж сляпы.
Асаджаны глуха і вусцішна
над стукатам нізкіх ног.
Трамвай, як сараканожка...
Не, не падабаецца мне гэтае параўнанне.

Параўнаю трамвай лепш з вожыкам,
што цвёрда і шпарка
бяжыць па падлозе – тук! тук!

***

Ноччу, тым часам, як спаў,
Зорка свяціла ў акно.
Ціха самотны павук
Ткаў для той зоркі мярэжы.

Потым ляцеў самалёт –
Гул яго біўся аб шыбы.
Кінуў мярэжы павук,
На падваконні стаіўся.

Тою хвілінаю я
Вочы расплюшчыў, прачнуўся.
Плакала зорка ў акне –
Ну а чаго, яшчэ ў сне
Я здагадаўся.

***

Жыць у суседстве дрэў, і траў, і купін,
Жыць у суседстве жыта і раллі.
Так бессмяротнасць, можа, і не купім
На гэтай ненадзейлівай зямлі.

Але ж і тое-гэтае спазнаем
У гэтым ненадзейлівым жыцці,
Каб сівізной расквеціцца, як маем,
І ў новы свет паціху адплысці.

***

Мне спавядаўся чалавек.
Яго ўважліва я слухаў
І думаў: «Тое і ў мяне.
Ўсё гэтак, гэтак аж дарэшты».
Мяне спытаў ён: «Ну а ты?
Усё ў цябе, канешне, лепей?»
І я сказаў: «Канешне, лепш,
Але цябе я разумею».

## *Конскі базар*

Вы бачылі ўскраіну,
    дзе хаткі,
    дамкі
    і будыніны,
дзе няма магазінаў –
    ёсць крамы,
    кнігарні,
    ларкі,
дзе тралейбус з апошнім
ці перадапошнім нумарам
валюхаецца вузкай вуліцай,
чапляючыся за платы?
Вы бачылі ўскраіну,
    дзе рокі,
    і твісты,
    і шэйкі
гучнейшыя, чым у горадзе,
і дзе, калі рэзне гармонік,
разляжацца гэткае рэха,
што бубнамі робяцца
    дахі,
    падвойныя ніцыя вокны,
    і весніцы,
    і платы?

Вы бачылі гэтую ўскраіну?
Не бачылі?
Нават не чулі,
што недзе ёсць гэткае дзіва, –
празваны некалі Конскім,
адзін на ўвесь горад базар?
Паслухайце!
Гэта ж там!

***

Не было,
дальбог, раней не было
столькі круглых і свежых вачэй, маладых,
як раса на шурпатым лістку парэчак.

Матавасць смуглых шчок
вось-вось румянцам пральецца.

Разумею,
чаму так гавораць:
кроў з малаком.
Няўжо і раней гэтак многа было
круглых і свежых вачэй, маладых,
як раса на шурпатым лістку парэчак?
Азначае ўсё гэта –
старэем.

## *Халадзільнік*

У халадзільніка ёсць душа.
У халадзільніка ёсць настрой,
які ў тэхнічным пашпарце
пазначаны так: 60 W і 100 W.
Здаецца, інакш гэта завецца рэжымам, але я слаба
разбіраюся ў тэхніцы, і мне прасцей думаць, што
у халадзільніка ёсць настрой.
Калі я сяджу на кухні, – думаю ці чытаю, –
халадзільнік
ля бока вуркоча, лагодна і мірна, бы кот.
Павуркоча і сціхне – і я пра яго забываю.
Пройдзе колькі хвілін, і раптам пачуецца шоргат,
а пасля ўжо –
штуршок: адчуванне такое, быццам кот пад
руку табе тыцкае пысай. І зноўку мурчыць.
Вы можаце мне не паверыць,
але паглядзіце ў тэхнічны
пашпарт, – там вы знойдзеце лічбы: 60 W і 100 W.
І вы тады ўбачыце, што я не салгаў.

## *Помста*

Скажыце мне,
колькі вам год:
я вам пажадаю шчэ столькі,
шчэ столькі,
шчэ столькі
ну і паўстолькі, –
колькі,
пакуль не памёр,
жадалі і мне.

## *Скончылася лета*

Дзень ціхі, дзень дрымотны, як вада.
Смуглява-залацісты. Цёплы промень
Забавіўся на твары. Так пчала
Апошні раз цалуе памяць кветак.
Скупой журботай дыхае зямля.
Лісток альховы, скурчаны лісток
Спіць у абдымку з мёртваю казюркай...
І сонны бляск, і пробліск павуціння.

Вы здагадаліся: то скончылася лета.

## *Жаўтацвет*

Сонца – сланечнік на сіняй градзе.
Промень-пялёстак на дол упадзе.
Промень падыме смуглявае лета,
Быццам істужку, у косу ўпляце
Дрэвам,
Гуркоўніку,
А закаханым ложак засцеліць
Колерам блізкай разлукі.

Жоўтым агнём разгараецца восень.

***

Які прастор!
Які прастор!
Рукой падаць,
Рукой дастаць
Да зор!
Лячу увысь. Шчаслівае імгненне!
Ураз парваны путы прыцягнення –
І вольны я. І прагай распылення,
Пакутай гордаю самазнішчэння
Душа напоўнена.
      Вось выбух!
      На зямлі
Вы ў гэты міг хіба яшчэ жылі?

## *Плач па Гарсія Лорку*

У маіх вушах
    гудзе зямля –
грамчэй,
    чым тупат,
    чым тупат
тваёй кавалерыі...
    Гарсія Лорка...
Над мёртвым схіліўся я.
Схаваны ты ў посцілку –
і не памераны.
Які ты быў,
як прывезлі цябе?
Ці ты падаўжэў,
    ці паменеў?
Жандары,
    мне кажуць,
стаялі
    ў журбе?
Стаялі
    маўчком на каленях?

І навошта – ім,
зразумець як іх?
Ім не быў – сваім,
не хацеў,
не меў
сярод іх
сваіх.

Ты жонку, скажы, адбіў у іх?
  – Не!
Дзяцей іх вучыў хіба подласці?
  – Не!
Паслухай, што я скажу табе...
Паслухай... Адкуль я знаю цябе?
З Гранадскай хіба,
  з Магілёўскае вобласці?

Непадобны такі,
неспазнаненькі, –
на цябе ручнікі,
прынясёны з ракі,
пакладуць
    заўтра
      раненька.

***

У горадзе,
    пасля дажджу,
на плошчы знаёмай,
    дзе болей машын,
чым знаёмых людзей,
    ля брыжыка тратуара,
адшліфаванага так нагамі,
як у пад'ездзе колішнім
    нашым
        лесвіца, –
у лужыне з восеньскім жоўтым лістком
мільгнуўся адбітак твой...
Ты была ці не ты?

Рушылі людзі.
Быў святлафор і машыны.
Ты была ці не ты?..
...не разглядзеў.

***

Над словам і над гукам,
Даўмеўшыся пары,
Спярша на рукі хукай,
Пасля ўжо твары.

***

Над комінам дым – журба,
Хмарка на небе – журба.
Навокал вясна, вясна, –
Як молада пеўні пяюць!
Чарсцвее капытны след,
Чарсцвее пад ветрам твар,
І ўсё за лес, за лес
Хмаркі плывуць.

***

Прысніўся верш – не верш, а два радкі.
Абломак лодкі ўсплыў са дна ракі,
І кружыць вір счарнелую траву.
З абломкам лодкі к берагу плыву.
Прачнуўся. Дзень трывогаю прапах,
І два радкі гаркотай на губах.

## З кнігі «Цень ад вясла» (1979)

***

Так! Пад ценем вясла
утрапёнай вады вуркатанне,
пеннай бурбалкі ўсхліп, –
так! Пад ценем вясла –
цень на дне, цень, стракаты ад сонца,
ад кропак і косак маўчання,
трывання,
працяжнікаў, клічнікаў перасцярогі,
ад строгіх фігур дапушчэння,
здзяйснення,
здзіўлення,
ад вектараў сілы,
што ў наступ ідзе без адхлання,
перамагае і нішчыцца
паўзаю раўнавагі...
Так! Пад ценем вясла –
праз дзень неадчэпны вяслую.
Бераг далёка.
Не менее ў сэрцы адвагі.

***

Паяднай пачатак і канец –
Азарацца памяці скляпенні,
Каб пад імі сталі палымнець,
Ясніцца мінулыя імгненні.

То не проста зноў пачаты бег,
То жыццё, адчутае прыкметай,
Як праз снежань адчуваеш снег,
Як праз промень адчуваеш лета.

Але ж то і сіратлівы дом,
Нота, што адлучана ад спеву,
Плынь ракі, што сталася ільдом,
Контур голля на бязлістым дрэве.

Мы адчуць іх можам – не вярнуць,
З іх быццём даступна-недаступным, –
Іх, што ў дні аднолькава жывуць –
У мінулым, сённяшнім, наступным.

***

Надыходзіць пара
Падрахункаў, няйначай.
Пасядзім ля кастра,
Памаўчым наастачу.

Усчынайся, агонь,
На грахі, на правіны!
Загарайся, аблонь, –
Дойдзе да сарцавіны!

Не пачнём наракаць
На бязлюддзе, бяздолле,
Хоць не доўга чакаць,
Як патухне вугольле.

Ты дары раздары –
Чым часіна благая?
Ах, як слаўна гарыць,
Як высока шугае!

## *Учынак*

Надламацца
пад ношкай жыцця –
пабурыцца
маланкаю ссечаным дрэвам.

Раскашавацца, расці –
гэтак, можа, і лепей.
Толькі варта б і дзякуй сказаць
сцеражліваму грому,
спагадна-лагоднай маланцы.
Так ці не?
Ды за дзякуй
пазбавіцца можна
і ўласных учынкаў, вядома.
Так ці не?
Папытаем давайце ў дрэва,
што такое учынак?

## *З дарогі*

Святло запаліў, распрануўся,
на люстэрка павёў краем вока.
Ад святла па кутах пахаваўшыся,
няўцямна пенаты маўчалі.

Стоячы перад люстэркам,
ён доўга сябе пазнаваў.

Пасля ўжо яго абступілі пенаты.

«Стаміўся», – хацеў ён сказаць.
«Вярнуўся», – сказаў ён пенатам.

## *Першы снег*

Калі там хмара набрыняла,
І хто там вецер зацугляў,
Ды толькі з ночы ўранку ўстала
У новай вопратцы зямля.

Паспакайнелы, вунь імгліцца
Празрыстай беллю чорны клён.
Вунь пасмялелая сініца
Ужо наведала балкон.

У белы свет адкрыты дзверы
Для азмрачнелае душы.
І дзень, як чысты ліст паперы:
Устрапяніся і – пішы.

***

Няшмат сустрэч, а болей іх было,
Як болей слоў і думак пра сяло –
Яшчэ нядаўна, мо яшчэ і ўчора,–
Як болей кіпеню ў кіпенні гарадоў.
Не верыцца шчасліваму паўтору
Нядаўніх дум, як і гадоў.
І цяжка ў памяці былое парадніць,
І цяжка ў памяці былое пагадніць
Мне з тым усім, што ўжо зусім другое...
Застанься, Моцарт! Не спяшайся, Гойя!

## *І тады...*

...І тады
дзень учарашні
шукаў сябе сённяшняга
у тралейбусах
            з парнаю лічбай
(былі ўсе няпарныя лічбы),
быў сандзень у кожным кафэ,
і ў горадзе дзевяць адразу
адкрылася новых базараў.
Тады паявілася мода
на выйгрышы па латарэі.
І аб’явілі па радыё
(падалі ідэю пажарнікі),
што неўспадзеў паявіўся
у раёне Праспекта
мядзведзь...
...бо тады
дзень учарашні спраўляў
у сённяшнім дні пахмелле...

***

Вось тут, далёка ад сталіцы,
Ад ісцін новых і старых,
Жыву, як выгнаны патрыцый,
Грыбы збіраю у бары.

Шукаю вернай панацэі
Ад розных там душэўных ран
Тут, у бярозавым ліцэі,
І на рысталішчах палян,

Дзе конікі прымаюць старты,
Дзе збоч, як быццам бы арлы,
Падлёткі сочаць дол упарта
З сасны – тарпейскае скалы.

Паганец, я малюся богу
Румянай поўні і схадка
І, захінуты ў ночы тогу,
Сню лусту-скрыль маладзіка.

## *Балада вуліцы*

Я – вуліца,
я – рака.
Праз водарасці рэклам
плыву ў затокі плошчаў,
у рукавы завулкаў –
паўз астравы кварталаў
і мікрараёнаў
мацерыкі.
У маіх затоках
нерасцяцца машыны,
слізка мігцяць бакамі
тралейбусы,
аўтобусы,
трамваі,
туга набітыя даволі абрыдлымі мне
    стварэннямі
адно на адно падобнымі, бы ў мікрараёне
    дамы.
Праўда, я да ўсяго прывыкла,
я стала цярплівая,
бо я – вуліца, я – рака.

Але калі-нікалі мне хочацца,
каб ноч хутчэй наставала,
каб хутчэй засыналі машыны –
    гэтыя юрліва-халодныя рыбіны
    з падманным маторным цяплом.
Мне хочацца,
каб гарэў толькі бакен,
каб гарэла адна тэлевышка,
там, у небе,
дзе зоры гараць.
Толькі і гэта дарэмна!
Ноччу
я часта чую,
як пад бетонным мостам
смуткуе мая сястра.
Яна шэпча:
    «О гора мне, гора!
    Я дзяцей сваіх загубіла,
    вясёлкавыя ад нафты,
    усплылі на паверхню яны.
    Бляшанкамі ад кансерваў
    дно маё ўсцяж укрыта,
    на могільніках бляшанак
    памяць аб дзецях спіць.

З моста на мяне з пагардай
плююць цыркачы, паэты,
грузныя упраўдомы,
бухгалтары-планавікі.
Бетонныя парапеты
мяне абдымкамі душаць,
каналізацыйныя трубы
пагібель маю пяюць».
Так яна шэпча.
І ноччу я гэта чую,
а днём у затокі плошчаў,
у рукавы завулкаў –
сваю й сястрыну сумоту
нясу,
нясу...

## *Думаў яшчэ нядаўна*

Туга мая гэтай ноччу
чамусьці не выплыла ў мора:
рыбінаю прыціхлай
ходзіць каля плацін.
Месяц чамусьці ноччу
сюды не зайшоў у горад, –
ляцяць на ліхтар сняжынкі,
сон ад павек ляціць.
І цішыня якая!
Пульс горада чутны ледзьве:
няйначай, часінай гэтай
вечнасць сам Хронас сніць.
На поўначы ноччу гэтай
белыя ходзяць мядзведзі,
над імі палярнае ззянне
барвовай тугой шамаціць.
А думаў яшчэ нядаўна,
а думаў яшчэ і ўчора:
на пяцігодку наперад
свой доўг прад тугою сплаціў.
Туга ж мая гэтай ноччу
чамусьці не выплыла ў мора,
рыбінаю прыціхлай
ходзіць каля плацін.

***

Ручча сасніў я джарало.
Высока сонейка стаяла,
І слонкі быстрае крыло
У зыркіх промнях трапятала.

І шэпт арэшын і травы
У сне мне чуўся імем-словам.
Гладышкі голас гарлавы
У ручая быў тымчасова.

І гэты гук выразна мне
Душу сцінаў салодкім болем.
Я думаў: многа год міне,
І гук не скончыцца ніколі.

І пахла сонцам і вадой.
Бясконца так, навечна будзе!
Паветра парны сырадой
Струменем цёплым ліўся ў грудзі.

І блаславіў я гэты дзень,
І над крыніцай я нагнуўся,
Калі ў асмужанай вадзе
Твой светлы вобраз калыхнуўся.

Струмень я піў, я слодыч піў,
Нібы чыё наканаванне,
Я так тады цябе любіў,
Бы прадчуваючы расстанне!

Нібы скараўся я журбе,
Нібы скараўся ўжо расплаце...
Хоць і не ведаў, што цябе
Ужо даўно наяве страціў.

## *Вяртанне*

Анічога! Гэта можна,
Гэта можна зразумець!
Кот крадзецца асцярожна,
Каб абед сабе прымець.

Жвавы «газік» на дарозе
Прафырчэў і прапыліў.
Дзед стары на стрэчным возе
Пракаветнае сасніў.

Брыгадзір ідзе ад фермы,
А даяркі не дый не
Паразважаць: як паверне?
Крамы ж мо не абміне?

Хлапчукі «вядуць» галёшу –
Трэніруюцца ў футбол...
Свет не кепскі, а харошы –
Ліст цярушыцца на дол.

***

А была, толькі хмарка была,
Толькі хмарка на ранішняй сіні,
Калі йшоў я ускраем сяла,
Калі кані застацца прасілі.

Разбурыўся над рэчкаю мост –
Ацалела чамусь парэнча.
Перайшоў тую рэчку наўпрост,
Азірнуўся, траха не ўкленчыў.

Што хацеў я і што я мог?
Вунь і кані на гнёзды палі.
Завіваўся над вёскай дымок,
Недзе косы кляпалі.

***

Вунь і яно, успамінаў лісцё,
На дрэвах, на тумбах, на дугах трамваяў.
Скажыце ж цяпер, а ці многа дасцё
За квецень апалую маяў?
Ды толькі і ў вас гэтаксама было,
Паводле адвечнае звычкі:
Бяссонныя ночы, кахання сіло,
Перон і вясновы палон электрычкі.
Абсыпалася
каляіна вясны,
Прыбіта трава прыдарожная пылам.
Цяпло тваіх вуснаў прыходзіць у сны,
Мне вусны казыча тугой неастылай.
Трывожлівы сон, трывожны палон,
Трывожныя ў сне успаміны...
Цягнік успамінаў ідзе пад адхон,
Ляціць на ажыны,
крушыны.

## *Маўчанне*

Гэта – навыварат звон,
гэта – «цік-так» дагары
ці тэлевізар сапсуты.

Падумаем пра рамонт
адны ў пустой кватэры.

Гэта – палосы дажджу
за гарадскою рысай
(дождж не дайшоў да мяне
і да майго балкона).

Гэта – здагадка:
вось дзень,
дзень, у які пра цябе
аніхто не ўспомніў ні разу.

Што тут зробіш?
Маўчым.

***

Аднойчы ноччу
да мяне на ложак падсеў чалавек.
Выглядаў ён упэўненым і спакойным
і апрануты быў у цёмны пінжак,
мабыць, зусім яшчэ новы,
бо ад яго вастравата запахла крамнінай.
Чалавек да мяне нахіліўся:
струменіў з вачэй нейкі жаль,
падобны на той, што бывае ў асеннім ветры,
калі ён пралятае над сіратлівым іржышчам.
«Слухай,–
сказаў чалавек,–
я нічога не разумею,
у цябе некалі была неблагая фантазія,
памятаеш, тады, калі ты прыдумаў мяне.
Ты даў мне паставу і рост,
якім пазайздросціў бы кожны,
высокі і чысты лоб,
смужлівы, як снежная гурба.
Даў голас –
нібыта клінок,
да часу схаваны ў ножны.

Плечы мае –
два крылы,
развінутыя ў плаўным палёце.
Ты даў мне душу і розум –
жывіце ў шчаслівай згодзе! –
ты мяне, як гадзіннік, завёў
на кругабег удачы.
Чаму ж ты цяпер, чаму
зусім пра мяне забыўся?
Ведаеш,
калі ты раніцай курыш,
разгублены і задуменны,
мне балюча глядзець на цябе.
І днём між людзей ты ходзіш
нейкім далёкім рэхам
і цыгарэт выкурваеш болей,
чым прамаўляеш слоў.
Скажы мне цяпер, калі ласка,
чаму ні ў натоўпе, ні дома
не хочаш мяне пазнаваць?
..............................
Я гляджу,
я маўчу,
я думаю,
што гэта мне сніцца сон.

## *Ранак*

Гэта поле, гэты гай,
Гэтая дарожка,
У куце зялёны май,
На стале валошка,
Гэта ядрань, гэты смех,
Ластаўчына пража,
Гэта засень мілых стрэх –
Гэта ўсё падкажа
Тое слова – неспадзеў,
Спеў – неспадзяванак,
Што нікому анідзе
Не даверыў ранак.

## *Калі надзею хаваў...*

Калі надзею хаваў,
ноч была, як прымха, глухая.
Рагатала ў нетрах сава,
ды Каінам месяц з-за хмар
выглядваў – маўчун віжаваты,
ды сыкала гадаўё,
і шмякалі ў яміну жабы.
Шапталі трывожліва шаты.
Шыпшынавы куст
і крушынавы куст
сплялі ў той яме карэнне...
А ўжо камень я сам палажыў
тою ноччу на сэрца.

***

У зелянковых фарбах неба
Па-над барвовым бліскам хмар.
А тут нішчымна пахне глеба,
Гібее восеньскі абшар.

Пацешся забаўкай маленькай:
Узбоч настылае раллі
Сваёй арэхавай кавенькай
Брынчэць па шэрым бадыллі, –

Калі прасцяг халодзіць вочы,
Калі такі падшэрхлы дол,
Калі такая ўжо сірочасць,
Такая жальба навакол,

Калі, як лісце, абтрасаеш
Гады на золкім рубяжы,
Калі да болю адчуваеш,
Як многа лішняга ў душы.

О надвячорак азалелы,
О спусташэння шэры час!
Што пераспела, адбалела,
Хай абыходзіцца без нас –

У час трывання і надзеі,
У час цярплівасці адной,
Калі зімовае завеі
Крадзецца подых за спіной.

***

А мо чакаў я гэтага званка,
Мо непазбежнасць нада мной лунала,
Калі твая шчаслівая рука
Шэсць гэтых лічбаў недзе набірала.

Ало, ало! Успомніцца пасля:
«Мой дарагі! Віншую з першым снегам!» –
І голас заміраў далёкім рэхам,
Званочкам, што дражніўся мне здаля.

Як скалануў мяне ён, як жа ён
Мяне ў абдымкі праз адлегласць кінуў!
Я уваскрос, я рос, я жыў, я гінуў, –
Зноў уваскрос! Я пасылаў праклён

Мінуламу, што стала паміж мной
І між табой нядобраю няславай,
Панылацю над недапітай кавай,
Віной віна і простаю віной...

Хай будуць благаславёны: гэты дзень,
І першы снег, і першыя завеі,
Сняжынка тая, што табе на веі,
Нібы дарунак неба, упадзе!

***

Бяда знянацку налучыла,
Знянацку шчасце абышло...
Жыццё мо кпіла, мо вучыла,
Мо раўнадушнае было.

Патроху болькі адбалелі,
І духам быццам не ачах,
Хоць доўга будні і нядзелі
Адною фарбай пазначаў.

Не пакарыўся скрусе ніцай,
Ды не забыўся з тых часоў
Абрыў адразу столькіх ніцяў,
Званкоў, размоў і галасоў.

Ды аблачынкі, ды хмурынкі
З чала ўжо болей не сплылі...
Ды на аўтобусным прыпынку
Даўжэй ён курыць, чым калі.

## *Гэтае дрэва*

Як разлагодзіла душу
Мне гэта дрэва!
На гэтым вецці калышу
Сны-неспадзевы.
Упаў на цёплую траву,
Раскінуў рукі.
О, не кружыце галаву
Мне, пахі й гукі!
Мо я не зведаў у жыцці
Уцехаў велькіх.
Пакора, мятлушкай зляці
Мне на павекі.
Хай утаймоўвае душу
Маю, о дрэва,
Твой ціхі шэлест, ціхі шум,
Святла залева.
Я не шукаю ані-ні
У ліставерці
Тваіх гадоў, тваіх планід
Сваё бяссмерце.
Сачу я ценяў лёгкі лёт,
Аблокаў пёркі.
Мой лёс зусім наадварот,
Зусім не горкі.

Яшчэ не позна па жыцці,
Па свеце белым
Зялёным ветразем плысці –
У цвеце спелым.

## З кнігі «Мой свеце ясны» (1986)

### *Купала*

У Анны у Андрэеўны Ахматавай
Ёсць невялікі вершык – ён пра тое,
Як Муза ёй з’явілася аднойчы
У пастушковых строях і з жалейкай.
– Скажы, ці ты калісьці дыктавала
Старонкі «Пекла» Дантэ? Адкажы! –
Так запытала Музу паэтэса.
І сціпла адказала Муза: «Я».

А сына Дамініка Янука,
Якога сёння мы завём Купалам,
Натоўп аднойчы пераняў дарогай –
Галодны, босы, у падраных світках.
Сын Дамінікаў запытацца мусіў,
Хто вы, маўляў,
    адкуль і хочаце чаго вы?
І быў адказ, як выдых:
    – Беларусы!..
Ён благаславіў іх, а натоўп яму
Аддаў у рукі верную жалейку.

## *На стозе бусел*

Крамяныя грудастыя аблокі
Над пожняю, над лесам коціць дзень.
Жывое джгае порсткі авадзень,
А даль мігціць наміткай-навалокай.

На стозе – бусел макаўкаю лета:
Не патрывожу, брат, вазьму правей!
Аднекуль затрашчыць матацыклетка –
І не чутно ўжо коніка ў траве.

Ды ціха зноў. І на душы прыветна.
Я зноўку тут. Благое ўсё міне.
Насустрач ты – гарачае паветра
Густой, дрыготкай хваляй – на мяне.

***

Яшчэ не ўшчаліся вятры,
Але шклянее неба ранкам
І клён барвеніць угары
Над прахалодна-чэрствым ганкам.

І ранняй восені пара
З яе бадзёрай адзінотай
З прысадаў, саду і двара
Ужо глядзіць зусім не ўпотай –

І нам нагадвае тады
Сваёй задумнасцю глыбокай
Спакой крыштальнае вады
У шклянцы поўнай, быццам вока.

Не зварухні, не закрані!
Няхай халодна грані граюць,
Пакуль кляновыя агні
Красой апошняю палаюць!

***

Я не скажу, нібыта
Свой лёс хачу іначыць,
Пражыта – не забыта,
І нешта ўсё-ткі значыць.

Хоць час – ён справу робіць,
Не ведаючы жалю.
Ён каранує дробязь,
Падзею – прыніжае.

Хоць час па-свойму плоціць:
Як набягуць згрызоты,
Цвічок ва ўласным боце
Страшней, чым «Фаўст» Гётэ.

А ў часе небяспекі –
З прычыны, без прычыны
Падасца чалавеку
Сам белы свет з аўчыну.

І вось такія справы
Такімі вось часамі:
Свет белы – ён направа,
Налева – ён таксама.

Вось так і не іначай!
Спытай – адкажа рэха:
– Налева – будзеш з плачам,
Направа – з горкім смехам!

– А напрасткі што свеціць?
– Надзея... Тыя ж болькі...
– Ну, што ж, я згодны, свеце,
Падай надзею толькі!

***

Не спіцца, ліха на яго.–
Трызненне – быццам празарэнне.
Патрохі маеш усяго,
І нават ноч, як сутарэнне.

І недзе за акном ліхтар.
Хаця б міргаў, дык не міргае.
Ты з адзінотай твар у твар –
Хвіліна гэткая благая!

Перацірай, перабірай
Запас душэўнай гаспадаркі,
Сябе судзі, сябе карай
За дзень, за сваркі і за чаркі.

## *Самалёцік-верталёцік*

Самалёцік-верталёцік,
Страказа,
Апусціся ты на плоцік
Расказаць,

Ці баіцца цябе бусел,
А ці не?
Як у небнай жыць ты мусіш
Старане?

Надрываешся штосілы –
Што за шум?
Дзе свае згубіў ты крылы
Ці душу?

Тут мы ўнізе – чалавечкі,
Ты там – зух!
Цень спалохаў твой над рэчкай
Страказу!

## *Бальніца ў полі*

Апошні прыпынак у полі.
Бальніца.
Бель снягоў перапынена
чорнага лесу закрайкам.

Прывозяць сюды тугу,
вывозяць надзеі адсюль,
прывозяць надзеі сюды,
нагружацца каб тут тугою.

Што ж, не марудзь, рулявы
безветразёвае лодкі!
Што ж, не марудзь, шафёр!

Ён памарудзіў, пайшоў
да раструба мікрафона
на тым адзінокім слупе,
стаяў што наводдаль ад нас
і значна бліжэй – да поля.

Можа, дазвол там прасіў
на адпраўленне ў самога Бога.

***

А фотаздымак на стале,
Мяне страчаючы з дарогі,
Убачыць, што я пасталеў
І пасумнеў вачамі трохі.

Што новых звычак прастата
У быт, калісьці адмысловы,
Наўрад ці ўвойдзе проста так,
Як у люстэрка воблік новы.

Я наўздагад так гавару.
А мо я ў першы міг той горкі
Прысяду моўчкі – закуру
Цыгарку моцнае махоркі.

І трохі ўгнецца галава,
І, можа, трохі ўгнуцца плечы,
Як рэчы стануць ажываць
У высілку нечалавечым.

І страх: пазнаюць або не?
І жах – а ў думцы падсвядома,
Што не іначай на вайне
Ты быў –
        і вось прыйшоў дадому.

Жывы. Ды радасці такой
Як быццам бы і сам не рады.
І гэты вузенькі пакой
Твае не памяшчае страты.

І зразумею я ў той міг,
У тую горкую хвіліну,
Што іх замнога на дваіх, –
То лепей іх сабе пакіну.

Я на цябе тады зірну
І ўбачу, як ты ціха плачаш,
Нібыта нейчую віну
Самой маўклівасці тлумачыш.

***

Пабудзі мяне рана-раненька,
Прыбяры мяне ты старанненька.
З дому выйду я – паўзіраюся,
З наваколлейкам развітаюся.
Не туды пайду, дзе хвашчак расце,
А туды пайду, дзе чабор цвіце.
Шумам-яварам, цвет калінаю
Мне дарожанька сакаліная.
Стрэчу шчасцейка – не кляні мяне.
Стрэчу горайка – не заві мяне.
Бо жылі з табой мы ў кляцьбе-журбе.
Мне дарожанька – адпачын табе.

***

Напэўна, гусі на бяду
Крычалі – журавы маўчалі,
Калі ў дарозе чараду
І зім, і лет маіх страчалі.

Буслы, як нейкія паслы,
Паважную хавалі тайну.
Ды поўніўся мой змрок і слых
Сваёю тайнай жыццядайнай.

Ужо і сэрца абняла
І пранізала тайны сіла,
Ужо на ветразі крыла
Мяне узнесла і насіла.

Тады я глянуў на зямлю,
Дзе засталіся чалавекі,
І зразумеў, як я люблю
Ўсё тыя ж паплавы і рэкі.

Што толькі міг –
    і ўжо табе
Ні спадзявання, ні вяртання,
Што будзеш плакаць у журбе –
Без даравання, без адхлання...

Што я хацеў, што я хацеў,
Што за праява адбылася?..
Я сніў, што сам я адляцеў –
Душа ўзяла і засталася.

***

Імгненні ёсць пакутлівага шчасця –
Ірвуцца ўвысь і думка, і душа.
Ды толькі тое ўсё ў радок не ўкласці,
Як ты яго, радок, не падвышай.

Бо адмыслова, самадастаткова
Само сабой гаворыць пачуццё.
Тады абразай можа здацца слова,
Тады адно – цудоўнасць і жыццё!

***

Кіну, рыну – пакіну
Гэты дом на гары.
Горкі дым успаміну
Хай развеюць вятры.

Хіба гэтак няможна?
Дзе пасцелецца цень
Ад капы прыдарожнай,
Там і будзе пасцель.

Мо на Шчару, на Піну
Ці на Пціч, Вілію,
А мо на лугавіну
Я слязу пралію, –

Каб зрабілася парай
Над ракой, над ракой,
Каб здружылася з хмараў
Талакой, талакой, –

І каб чайкі крычалі,
Прадчуваючы гром,
Каб на дальнім прычале
Здрыгануўся паром!

## *Выпадкова падслуханая размова*

– Не быў жа злоснікам, скажы,
А колькі злоснікаў нажыў!
– Якія злоснікі? Яны
Вунь кажуць: проста быў дурны.
– Увагі быццам не прасіў...
– Маўчаў. А што ў сабе насіў?
– Дык пацікавіўся б калі...
– А ты? Мне вочы не калі!
– Не наракаў жа, бач, на лёс.
– Бо што паклалі, то і вёз.
– Памёр, і памяць вось памрэ...
– Што зробіш? Час сваё бярэ.
Бывай, мой браце, будзь здароў!
Не забывай пра дактароў.

***

Пад шоргат кропель дажджавых
Ён з тэлефоннай будкі бачыў,
Як па галінах верхавых
Зялёны вецер пругка скача.

Ён наглядаў. Ён не спяшаў.
Нішто пагляд не абражала.
Як бы лячылася душа,
Яе як быццам суцяшала,

Што вецер згоды не пытаў –
Шалеў над горадам – і, ніцы,
Ужо на вулках шкуматаў
Плашчы, кашулі і спадніцы.

І ў гэтай будцы пад дажджом,
У нейкай роспачы вялікай,
Сябе за даўнім рубяжом
Убачыў ён – і не паклікаў.

Не мог. А мо не захацеў.
Не абазваўся нейкім знакам.
А той у дзіўнай віднаце
Ці то ўсміхаўся, ці то плакаў...

І ў гэтым горадзе чужым,
Які ягоным быў калісьці,
Ішлі інакшыя дажджы,
Іначай трапятала лісце.

***

За вёскаю, на адзіноце,
Асеннім днём пачуеш ты,
Як вецер на запалай ноце
Скуголіць аж да нематы.

І што ні болю, ні шкадобы
Не наканована яму,
Калі бывае даспадобы
Няславіць волю, як турму, –

Ні развітання, ні спаткання,
А толькі вусцішнасць быцця:
Нібы пра згубнае каханне
Пяе няўцямнае дзіця.

Аж скаланецца раптам сэрца,
Ліхой збаяўшыся мяжы,
І так захочацца пагрэцца
Ля ўласнай цёплае душы.

***

Вось гэта музыка сама
Сабе гучыць. Ёй справы мала,
Што дзесьці водгуку няма,
Што недзе музыкі не стала.

Як бы не ведае мяжы,
Як бы сама сябе люляе
І ўжо на нейкім рубяжы
Сябе самую адмаўляе.

І ўжо не музыка чутна,
Калі нясвойскаю ахвотай
Грыміць раскатам перуна,
Трапеча гулам самалёта,

Калі ў правалах гукаў тых,
У страшнай роспачы канання
Трымценне струнаў залатых –
Як лёс або наканаванне!

***

Цень-цень сініца! Добры дзень!
Жывеш? Сваім званочкам чыстым
Зімовым ранкам прамяністым
І абудзі і абнадзей!

Цень-цень... А ўсё-такі прамень!
Цень-цень... А на паляне снежна!
Дзень добры, дзень! Святло прамень
Са схаладнелага бязмежжа, –

Хоць і не блізка да вясны,
Хоць і мароз – сляза на вочы,
Хоць у калматых елак сны
Адны што ўдзень, адны што ўночы,

Хоць гэтых елак чарната
Яшчэ змрачней ад непакоры
Таго дубовага ліста,
Што ад вятроў не знае зморы.

О, адарвіся, ападзі!
Скарыся – прошласці не вернеш!
Нашто чакаць, каб абудзіў
Вясковы сок пупышку-зерне?

Цень-цень, сініца! Добры дзень!
Паслухаю і збоку стану –
Пабачыць, як свой кіне цень
Лясная елка на паляну.

***

Халодны дождж – не даспадобы вільгаць
Зямлі. Хварэе сад на немату.
Відаць, не скора дрэвам лісце выгнаць
У цёплы свет, у ядрань, яснату.

Калі той час, як зерню легчы ў глебу,
У парную і пульхную раллю?
Нібы зямля не дагадзіла небу
І неба зазлавала на зямлю.

***

Снег асядае. І заспаны лес,
Пахмурны з раніцы, здаецца, пазяхае.
Туман да самых макавак далез.
Унізе – мох, ламачча – неахайна!

Унізе сыра – склеп або падвал.
Цень-цень! – І ўсё: маркоціцца сініца.
Зіма – падман. Ды і вясна – падман.
Вось-вось павінна нешта праясніцца.

***

Ускраіна абвалаклася дымам.
Гарацць, гарацць бадылле і лісцё.
Пад гэтым небам, сінім і любімым,
Не верыцца чамусьці ў небыццё.

Нібы сябе ты збоку аглядаеш,
Нібы сябе ты слухаеш знутры.
Каб расцвітаць, дык не, не расцвітаеш,
Але пра тое ўжо не гавары.

Хай расцвіцеш пазней – бяда такая!
Хай будзе дзень спякотней і гарчэй.
Ды нехта вунь і кліча, і гукае,
І хусткаю махае з-за плячэй.

Іду, іду! У далечы вясёлай
Грымяць масты, імчацца цягнікі.
Іду, іду! Ах, як грукочуць колы,
Як ты глядзіш уважна з-пад рукі!

***

А будзе час, калі і без нагоды,
А проста так, ад шчодрасці быцця,
Успомняцца ранейшыя нягоды
Раней нязнанай мерай пачуцця.

І тое ўсё, што некалі балела
І што гняло варожай варажбой,
Падасца смуткам – скрухай пераспелай,
А ўвогуле – харошаю журбой

Па тым усім, што гэтым Шляхам Млечным
Сплыве ракой – шумліваю слязой –
Не ў залаты век, не ў сярэднявечча,
Не ў мезазой або палеазой, –

Туды, дзе, па праверaных прыкметах,
Для ўсіх з другога свету прыбышоў
Цвітуць сады і неба ў дыяментах,
А ля вады – эфірны скавышок.

## З вершаў розных гадоў

***

Ты, чый званок развярэдзіў душу мне,
Ты, хто жыве у прыдуманым тлуме
Звадак сямейных,
Звоніш навошта і клічаш навошта?
Не, не для нас тэлефонная пошта.

*Што ты мне скажаш?*

Помню цябе у завейную сцюжу –
Толькі ж пра тое не скажаш ты мужу.
Сёння падвечар мы стрэнемся з мужам
І памаўчым. Памаўчым і патужым.

*Ведаеш, не звані.*

***

А думаў ты, што адышло,
І гаварыў: даволі, годзе!
Ды зноў расстаўлена сіло
Тваёй і думцы, і прыгодзе.

Іх лепей бачыш, у якіх,
Як і ў цябе, з планідай гэтак,
Выпрабаванняў больш цяжкіх
І болей раўнадушных сведак.

І ўсё ж чакай з надзеяй дня,
Знай, што залежнасць ёсць такая,
Што на сябе ўсё дабрыня
Агонь заве і выклікае.

***

*Рыгору Барадуліну*

Люблю тваю, мой дружа, дабрыню,
Прасветлую, як сівізна на скроні.
Я ёй сябе надзейна бараню,
А лепш сказаць, што ты мяне бароніш.
Люблю ва Ўшачах горасны твой сад
І кожнае ў ім каліва і зерне.
Цябе вяртае ён штодня назад –
Туды, дзе маці ўжо зямля не верне.
Той сад адзін і ў спёку на дварэ,
І ў сцюжу. Чуеш, вечнасць пралятае
Над ім – самотная і залатая –
І бы пчала, узятак свой бярэ
З раскошы нашай? Ну а мы бяднеем,
Нам дзень начэе, нам запозна днее.
Люблю тваю, мой дружа, яснату,
Узбуранасць тваю з раптоўным бліскам.
Тваю маланку – як жагае блізка!
Ты – тут, ты – там, ты за будзённай рыскай.
Як чуешся, вярнуўшыся адтуль?

***

У скверы гэтым лугавінка
Мне, што выпадкам, так сабе,
Задобрыў думку успамінкам
Аб даўняй ліпеньскай касьбе, –
Такая радасць і аддуха,
Такая горыч і журба!
Сядзі і ўласным сэрцам слухай,
Як адступае ціха скруха,
А з ёй – і гора, і бяда.
Няхай! Ды толькі дзе, мой хлопча,
Падстрэшак той і дзе каса?
Другі ўжо нехта копы топча,
Другі ў прыпар спачыну хоча,
Другія там – не ты ўжо сам.
Ах, божа мой! Чыёю верай
Перада мной той даўні луг
Паслаўся чыстаю паперай,
Каб я радком пракосы мераў,
Касіў за двух
І жыў за двух!

# ЗМЕСТ

З кнігі «Цень ад вясла» (1979)

## З кнігі «Мой свеце ясны» (1986)



## З вершаў розных гадоў

**Стральцоў**, М.
С83 Выбраныя вершы / Міхась Стральцоў; уклад. А. Хадановіча. — Мінск : Выдавец Зміцер Колас, 2020. — 96 с. (Паэты планеты).
ISBN 978-985-23-0092-6.

Міхась Стральцоў (1937–1987) – аўтар знакамітых «Сена на асфальце» і «Смалення вепрука», раптам перастаў пісаць прозу, але зрабіўся адным з найлепшых беларускіх паэтаў, без якіх сёння цяжка ўявіць айчынную літаратуру. Парадаксальнасць і спавядальнасць, «дзіцячая» шчырасць захаплення і «дарослая» трагічная іронія, пільная ўвага да жыцця і глыбокая абазнанасць у культуры – усё згаданае пазначае «пячаткай майстра» стральцоўскія вершы, сабраныя ў гэтай кнізе.

Адрасуецца шырокаму колу чытачоў.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Бел)-5**

